

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***

# Наша СЛОВА.*pdf*



**Трэці год выдання** **№ 12 (116) 20 сакавіка 2024 г.**

## Міжнародны кніжны форум сабраў вялікую колькасць наведвальнікаў

XXXI Менская Міжнародная кніжная выстава-кірмаш праходзіла 14 - 17 сакавіка ў сталічным выставачным цэнтры "Белэкспа". Удзел у мерапрыемстве ўзялі прадстаўнікі каля 20 краін, у тым ліку: Кубы, Венесуэлы, Туркменістана, Расіі, Ірана, Егіпта, Кітая, Сірыі і іншых.

У бягучым годзе асноўнымі тэмамі выстаўкі былі выбраны 80-годдзе вызвалення краіны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, 30 гадоў з першых у гісторыі суверэннай Беларусі выбараў прэзідэнта, 30-годдзе прыняцця Канстытуцыі і Год якасці, які быў аб'яўлены ў 2024 годзе.



Асноўнымі акцэнтамі экспазіцыі сталі кнігі ў жанрах нон-фікшн, дзіцячая і адукацыйная літаратура, выданні, прысвечаныя беларускай культурнай спадчыне і традыцыям, творам класікаў і замежных аўтараў. 39 выдавецтваў з Расіі прадстаўлялі свае разнастайныя выданні. Выдавецтва з Германіі "Дылінберг" распаўсюджвала бескаштоўна хрысціянскую літаратуру.

На XXXI Міжнародным кніжным кірмашы ў Менску выступалі цудоўныя беларускія паэткі і дзіцячыя пісьменніцы, было прадстаўлена шмат гістарычнай, краязнаўчай літаратуры, кніг пра мастацтва, можна было набыць творы нашых класікаў.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*

## Больш за 130 рамеснікаў сабраліся ў Гародні на кірмашы "Казюкі"

16 сакавіка ў Гародню з'ехаліся народныя майстры з Гарадзенскага, Ваўкавыскага, Навагрудскага, Свіслацкага і Шчучынскага раёнаў Гарадзенскай вобласці, а таксама з розных куткоў Беларусі - Баранавіцкага, Менскага, Маладзечанскага, Пінскага, Слуцкага раёнаў. Тэмай свята сёлета стала кавальская справа. Традыцыйна на кірмашы правялі цырымонію прыняцця чаляднікаў у гарадзенскую гільдыю рамеснікаў.







Сёлета кірмаш "Казюкі" праходзіў у рамках фэсту "Гарадзенскі разгуляй".

***БелТА.***

# Міжнародны кніжны форум сабраў вялікую колькасць наведвальнікаў

(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)

На розных пляцоўках са сваімі творамі знаёмілі Тамара Бунта, Аксана Спрынчан, Кацярына Хадасевіч-Лісавая, з чытачамі сустракаліся асобна Эдуард Акулін, Людміла Дзіцэвіч і іншыя.



15 сакавіка на прэзентацыйнай пляцоўцы са сваімі творамі знаёмілі чытачоў члены Віцебскага аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Гучалі пранікнёныя вершы на беларускай мове.

Шырока была прадстаўлена культура іншых народаў і краін, праходзілі прэзентацыі кніг і чытацкія дыскусіі.

Мастацкую і грамадска-палітычную літаратуру Венсуэлы на выставе дэманстравалі прадстаўнікі Амбасады - сеньора Майрэна Ньевес і сеньор Генры Пінта. Яны прадстаўлялі творы Ромула Гальегаса, Уладзіміра Акосты, Эрлі Эрэры, Акілеса Назоа і іншых пісьменнікаў Венесуэлы.




Пра маляўнічыя куткі некранутай экзатычнай прыроды Амазоніі і Карыбскага рэгіёна гасцям выставы распавядаў сеньёр Генры Пінта. Амбасада Рэспублікі






Куба дзялілася прыгожымі турыстычнымі альбомамі і каталогамі.

Студэнты Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы прадставілі культуру і кнігі розных народаў на Міжнародным кніжным кірмашы: Беларусі, Кітая, Туркменістана і іншых.

Культурнае ўзамадзеянне і сяброўства спрыяе развіццю дабразычлівых і міралюбных стасункаў паміж краінамі.

*Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Падведзены вынікі Міжнароднага дня роднай мовы ў Гарадзенскай вобласці

Падведзены папярэднія вынікі дыктовак і іншых мерапрыемстваў у Дзень роднай мовы ў Гарадзенскай вобласці..

У межах святкавання Міжнароднага дня роднай мовы для навучэнцаў, педагагічных работнікаў, прадстаўнікоў грамадскасці вобласці 21 лютага 2024 года было арганізавана правядзенне Гарадзенскай абласной дыктоўкі, прысвечанай 80-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Для напісання дыктоўкі быў прапанаваны тэкст "Сімвал бязмерных выпрабаванняў беларусаў", прысвечаны гераізму беларускага народа ў напружанай барацьбе з захопнікамі. Удзел у напісанні дыктоўкі прынялі супрацоўнікі Гарадзенскага аблвыканкама, райгарвыканкамаў.

Ва ўстанове адукацыі "Гарадзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы" 21 лютага 2024 года адбылося напісанне традыцыйнай агульнай універсітэцкай Купалаўскай дыктоўкі. Дыктоўку пісалі звыш 1000 чалавек.




*Дыктоўка ў ГрДУ імя Янкі Купалы*

Акрамя таго, з мэтай папулярызацыі беларускай мовы і культуры, далучэння моладзі да вывучэння гісторыі, культуры, традыцый сваёй радзімы ва ўстановах адукацыі і культуры вобласці быў арганізаваны шэраг конкурсаў, кніжных выстаў, творчых сустрэч з пісьменнікамі Гарадзеншчыны і іншых мерапрыемстваў.

Ва ўстановах адукацыі праведзены:

конкурсы чытальнікаў вершаў і выканаўцаў музычных твораў на вершы беларускіх пісьменнікаў, уласных твораў, прысвечаных мове;

конкурсы творчых пісьмовых работ "Пра мір і Радзіму на матчынай мове";

конкурсы сачыненняў-эсэ "Люблю цябе такой, якая ёсць, зямля мая, зямля бацькоў святая!";

інфармацыйныя гадзіны "Славутыя сыны сваёй краіны";

вусныя часопісы "Чароўныя напевы роднай мовы";

конкурсы малюнкаў па творах беларускіх пісьменнікаў;

тэатралізаваныя пастаноўкі і іншыя мерапрыемствы.

Установай адукацыі 'Гродзенскі дзяржаўны Палац творчасці дзяцей і моладзі" і ўнітарным прадпрыемствам “Гродзенская праўда” праводзіўся абласны чэлендж "Мова краіны маёй", падчас якога ўдзельнікам было прапанавана запісаць тэматычны відэаролік на беларускай мове аб культурных, архітэктурных, гістарычных, спартыўных аб'ектах або сучасных і гістарычных асобах Гарадзенскай вобласці.

На Лідчыне традыцыйна асноўная ўвага была ўдзелена напісанню беларускіх дыктовак. Ва ўсіх відах дыктовак (17-я Агульнанацыянвальная, 6-я Купалаўская, Гарадзенская абласная і Рэспубліканская) у Лідскім раёне прынялі ўдзел каля 12 500 чалавек. Гэта абсалютны рэкорд. У папярэднія гады толькі адзін раз колькасць удзельнікаў дыктовак на Лідчыне перасягала 10 000 чалавек.






*Дыктоўка ў лідскай СШ № 17*

Атрымаць дакладныя лічбы па ўсёй Гарадзенскай вобласці праблематычна. Ацэначна дыктоўкі ахапілі недзе каля 220 населеных пунктаў, пісалі іх да 40 тысяч чалавек.

*Яраслаў Грынкевіч.*





*Зміцер Захарэвіч*

# ІЗНОЎ ВЯСНА ...

**ПЕГАС**

*21 сакавіка - Сусветны дзень паэзіі*

Твайго пагляду счэзлы квет,
Бо прагнеш нібы і нямнога:
Кахання простага - зямнога,
Каб без сыходаў у засвет,
Але штораз мяне дарога
Вядзе туды, дзе znічак след.

Як выкляты да рэшты дзён,
Да сэнсу існага імкнуся.
Даруй, ізноў не азірнуўся
На тых, хто ўдома і на дом, -
Бліжэйшай раніцай вярнуся
Спяваць табе пад струнаў звон.

Пра тое, як цячэ сляза,
Пра што ўначы шапочуць хвалі,
Чаму з усмешкаю зухвалай
Снягі адужвае вясна
І як у сэрцы акрыялым
Знікае крыўдаў драбяза.

Калі ж зраблю апошні ўздых,
На плач твой не сказаўшы слова,
Не зрынецца светабудова,
Уцям - не я навек заціх,
А ў скачцы страціўшы падкову,
Пегас не вытрымаў дваіх.

**УСХОД**

Не цешыць колерамі ўсход,
Аднак вясна не прамарудзіць -
У горад, скурчаны ў прастудзе,
З паўднёвых з'явіцца шырот.

Паміж гмахамі, быццам шрот
Ва ўпор, завея джаліць грудзі,
Не цешыць колерамі ўсход,
Аднак вясна не прамарудзіць

Разбіць вітрын зімовых лёд,
І цепліцца ўспамін аб цудзе,
Дарма што ў ранішнім бязлюддзі
Сівых нябёсаў пасярод
Не цешыць колерамі ўсход.

* * *

Зрабілася туманам замяць -
Сышла пакорліва ў нішто,
Пакінуўшы ў завулках памяць,
Набраклую, як паліто,
Слязьмі яшчэ яскравых згадак
Пра час, убраны ў аксаміт,
Калі снег нетропка падаў,
Затульваючы краявід,
Струменіўся, галовы хмеліў
З кватэры кожнай елак пах
І вера ў цуды зіхацела
У святаў прагнулых вачах.
Тады здавалася, што ў вокнах
Калядных зорак не згасіць,
А сёння - паліто прамокла,
Бо памяць згадкамі бруіць.

* * *

Хто ведае, што будзе потым? -
Скразняк цяпельца патушыў,
Рассыпаны надзеяў попел
На дне астылае душы.

Які з турбот займею скутак?
Ці толькі камень у руку?
Расталі радасці і смутак
Сумётамі ў сакавіку.

Чым соты прышласці напоўню,
Калі сягоння не баліць?
Лаўлю ў далонь жарынкі промняў,
Каб зноў цяпельца запаліць.

**ІЗНОЎ ВЯСНА**

Хоць снег сышоў, а стаў святлейшым вечар,
Гараць дарма а шостай ліхтары -
Прыродзе людства звыкла супярэчыць.

Палю нахабна ў акадэмдвары -
Яе чакаю на супольны шпацыр,
І ўзрушана гудзе праспект стары.

Ізноў вясна - далоў з пачуццяў панцыр!
Заходзяцца, вярнуўшыся, шпакі
Пакуль рахую на ўзаемнасць шансы.





Наштось ранейшых стрэчаў чарапкі
Збудзіліся і непакояць памяць,
Нібы з юнацтва ўскрэслыя радкі.

Руды прамень, растаючы, не раніць -
Самоты час згасае пакрысе,
А цыферблат часцей мой позірк вабіць.

Вось постаць тонкая ў дзвярах…
Ідзе!

**ШАЛЬ**
**(наследванне песням ландскнехтаў)**

Апоўначы сціх смерці баль,
Спачылі страх і гнеў,
На ветры хутаюся ў шаль,
Што вышыла ты мне.
На ім праменны эдэльвейс
Уплецены ва ўзор,
Яго калісь табе прынёс
На знак кахання з гор.

Каб славу й золата здабыць
Спусціўся з іх даўно -
І ўзяты горад, і бяжыць
У келіхі віно.
Не раз як скрыгатала сталь,
Паіла кроў мурог,
Нібы сцяг, я ўздымаў той шаль -
Ён вёў да перамог.

Спакусна талеры звіняць,
Б'юць поклічна званы:
Пакуль ёсць прага ваяваць -
Патрэбны будзем мы.
Хто чэрава твайго Грааль
Напоўніць без мяне? -
Бо найміта зліняль шаль
Дадому не вярне.

Ландскнехта зраненага ўрэшт
Прыкончыць бог ці чорт,
А ты да ўнукаў дажывеш
У цені нашых гор.
Ці ўзрушыцца за іх сцяной
Чуллівая душа,
Калі павяжуць на крыж мой
Прабіты куляй шаль?



**ЗОРНЫ МОСТ**

Слодыч сноў пра крылы склаўшы за спіною,
Ля замкнёнай брамкі ў неба пагляджу:
Зіхаціцца промнем па-над галавою
Зорны мост - дарога адляцелых душ.

Кладка між сусветаў - вечнага й зямнога,
Адгасаюць побач знічкі ў цішыні.
Жыць мінучым шчасцем - можа, і нямнога,
Ды нямала ведаць, што па ёй прайсці.

Да сяброў і крэўных, без пары спачылых
Правядзе хай першы стрэчны арханёл,
Даланёй ад ветру, як дзяды вучылі,
Захіну грамнічкі дрогкі аганёк.

Супакой пануе там, куды намэціў,
І падступным кордам смутак не працьне
Будуць спаць мястэчкі, гадавацца дзеці,
Вальсаваць сняжынкі, толькі без мяне.

Па скананні кожны долю выбраць мусіць:
У чысцец камусьці, кане ў Лету хтось,
Я ж распраўлю крылы, з ланцуга сарвуся
І скірую проста - на зіхоткі мост.




**ПА ЛЁДЗЕ**

У люстры зледзянелага азерца
Твой кожны рух напорны адаб'ецца,

Бо прагнучы на іншы бераг трапіць,
Пайшла наўпрост - па небяспечнай гладзі.

На ім цябе што вабіць незваротна -
Няўжо агеньчык у акне самотны?

Які не гасне да пары світальнай,
Нібыта хоча падзяліцца тайнай.

І, дома ўседзець не знайшоўшы сілы,
У двор свой брамку звонку зачыніла.

Ну што ж, ідзі! Ды памятай - ты ўночы
На покліч па няпэўным лёдзе крочыш.

* * *

Нібы за шыбай, прад вачмі
Знікаюць у смузе нястрымна,
Спяваючы расстання гімны,
Паяцы, трагікі і мімы.
З усмешкай немай выбач ім
За тое, што праходзяць міма.

Бо сам прадказваў той зыход,
Як фэст квяцісты пачынаўся,
І, хоць здавалася - быў наўзле,
Ігрой з ліста не захапляўся.
Ты не ўвайшоў у карагод,
А на сваім стаяць застаўся.

---

Наўзле (дыял.) - побач.

**MEMORIAS**

Усеўладдзе сонца, жамчуговасць мора…
Ці было такое? - Так, аднак учора.
Клаў прыбой карункі зіхатлівых хваляў,
Нібы паж дарункі, каля ног смуглявых.
Аксаміт вячэрні і праменнасць ранкаў,
Пераліў гаворкі ў стоенай альтанцы…
Растрывожаць згадкі сэрца да трымцення,
Але жыць мінулым - пакарыцца ценям.
Без дазволу прыйдуць, сумам апануюць,
Беспрасвеццем лягуць на душу жывую,
Бляск вачэй гарэзных без пары прыгасяць…
Дык нашто трымацца колішняга шчасця?

**КАРМЛЮ ПТУШАК**

З ложка цёплага ўзрушыць
Дзень, зірнуўшы ў акно, -
Час, маўляў, карміць птушак,
Змешваць грэчку з пшаном.

Выйшаўшы на падворак,
Поўнай жменяю для
Жоўтагрудых сяброўак
Сыплю харч спакваля.

Вобміг з-пад стрэх зляціцца
Звонкая грамада.
Смачна есці, сініцы! -
Вам, дальбог, не шкада.

Радасныя пракудзіць
Будуць штораз смялей
Перыстыя, як людзі,
Толькі з намі страшней…

**ТОЙ, ХТО НА ПРАВЫМ ПЛЯЧЫ**

Сцюжа прышласць пастэллю фарбуе,
Замяце далячынь да начы,
Скрозь якую мне шлях нарысуе
Той, хто дбае на правым плячы.

Без выходных, заўсёды на працы,
Ставіць толькі шматкроп'і ў канцы,
Каб я меў куды ў стоме вяртацца,
Той, хто дбае на правым плячы.

Часам кроіцца сэрца пустэчай,
Ад адчаю - хоць крыкам крычы,
Тады словы спадзеўныя шэпча
Той, хто дбае на правым плячы.

А калі пачуццё развярэдзіць
І да строфаў знаходжу ключы,
На распаленых струнах вядзе рэй
Той, хто дбае на правым плячы.

Сёння ж дабраславеннем агорне,
Да пары крылы аддаючы,
У паўзмроку расстайнай платформы
Той, хто дбае на правым плячы.

Аглаблёвую чарку да донца,
Поціск рук - і ў чарговы маршрут…
Сцеражы, мой анёл-абаронца,
Тых, каго пакідаю я тут!

**КЛЕНЧАННЕ (НЕ?)**

**1.**

Здараецца, бурапенюся,
Гарэзуючы, п'ю нагбом,
Бо ведаю, да каленяў мне
Тваіх не прыхінуцца лбом.

Цябе знячэўку сустрэўшы, я
Рукой не кранучся пляча,
Не моўлю, да ног укленчыўшы,
Нязлічны раз: "Выбачай…"

**2.**

Пакорна словы прачулыя
Жабрак, абы бога ўмаліць,
Яму ў журбе ахвяруе ўсе,
Не маючы чым заплаціць.

А я і ў пару бяскрылую
(Як хочаш - пагардай сячы)
Да ног тваіх не абрынуся,
Каб іх слязьмі не апячы.

**ПРЫЧАСЦЕ**

Бясхмарны ўсход пазалаціў
Сівога лесу выцінанку,
Ліецца, як віно ў пацір,
У дом мой ззянне скрозь фіранку.

Павольна паміж сцен плыве
У дробным прамянёў трымценні,
Але ў агністым характве
Без следу тонуць ночы цені.

І, каб не слугаваць хам'ю
Парой пануараю бясчасся,
Святло ўдыхаю, нібы п'ю
Збавіцеля кроў на прычасці.

**ЛОВЫ**

Завершаны вечар хваёвы,
Пад зорнаю коўдраю стаў,
Я выбраўся ўночы на ловы
Адчаю, што сэрца працяў.
Бадай, да двубою гатовы -
Як трэба, пайду да канца;
Мігцяць светлякі тытунёвыя -
Здрабнелыя дзеці Зніча.

Гады ў рады дужаўся з лёсам,
Блазнуючы, множыў грахі,
А богу, відаць, немаглося,
І ўзмахам уладнай рукі
Свянцаў ён жаролы грымотаў,
Каб нас касавалі дажджы;
Цяпер жа я ладжу цянёты
На цішы звярыных сцяжын.

У лесе глухім і бясснежным
Сабе паўтараю: "Не спаць!",
Бо прыйдзе галодны драпежнік,
Жывое крыві паспытаць.
Пазнаць мушу беспамылкова
І подых, і поступ здаля,
Пачуўшы абураны голас
Пабуджанага ім галля.

Стральцоў нумары абмінуўшы,
Ён рушыць наўпрост на мяне,
З іклатым адзін застануся,
Сціскаючы тронкі ў руцэ.
Дастаць імкнучыся да горла,
Звер хіжа мне ў твар захрыпіць
І цёплая чырвань па кордзе
Світанкам на мох пабяжыць...

Струменіць дымок тытунёвы,
Кашлатыя хвоі маўчаць.
Ці я перамог у двубоі? -
Не можа ніхто адказаць.
Ліхой паняверкі нервовасць
Схаваю пад сподам плашча,
І часам бліжэйшым - на ловы,
Якіх ці счакаю канца?

**З НІЗКІ "РУБАІ"**

*

Дзе ні ступі - паўсюль пачуеш павучанні,
Як шомаст лісця дрэва вышняга спазнання,
Хоць бог разумнікаў выгнаннем пакараў,
Каб заслужылі паслушэнствам даараванне.

*

Адныя вераць байкам пустазвонаў,
А іншыя ўладарным б'юць паклоны,
Але, выгоды меўшыся знайсці,
Штораз трапляюць у ярмо прыгону.

*

Як сонца дыск руды паўстане над зямлёй,
Заліўшы гарады нібы начы крывёй,
Адродзіцца жыццё ў крыві ахвярнай той.
Так Вечнасць свой штодня разгортвае сувой.



№ 12 (116) 20 САКАВІКА 2024 г.
наша СЛОВА .pdf

# Інэса Парфенчык прайшла ў суперфінал другога сезону шоў талентаў "Фактар.ВУ 60+"

Жыхарка в. Бердаўка Лідскага раёна заваявала сімпатыю чальцоў журы яшчэ падчас тэлекастынгу, а ў паўфінале даказала, што годная выходзіць на вялікую сцэну, за што і атрымала шмат кампліментаў ад чальцоў журы. А ад спевака Аляксандра Саладухі - дзесяць балаў.

Разынкай выступу было і тое, што спадарыня Інэса з Бердаўкі выканала песню на бездакорнай французскай мове, а Саладуха пачуў у голасе спявачкі нават ноткі, характэрныя для Мірэй Мацье.




Інэса Парфенчык - адзін з кіраўнікоў і салістаў народнага сямейнага ансамбля Парфенчыкоў "Мы з вёскі-калыскі", які прапагандуе беларускую песню. Летась яна стала пераможцай фестывалю песеннага фальклору памяці Земавіта Фядэцкага "Цёплыя вечары, ды халодныя ранкі…". Цяпер праект "Фактар.ВУ 60+ " раскрыў у ёй і эстрадную спявачку.




Адзначым: з 12 паўфіналістаў у фінал "Фактар.ВУ 60+" прайшлі восем артыстаў. Іх выступ гледачы ўбачылі на тэлеканале "Беларусь 1" у пятніцу, 15 сакавіка, у 20:45. У фінале былі вызначаны імёны чатырох суперфіналістаў. І Інэса Парфенчык прайшла ў суперфінал. Аляксандр Саладуха зноў паставіў ёй дзесяць балаў.

***Наш кар.***

# Конкурс юных экскурсаводаў музеяў установ адукацыі

16 сакавіка 2024 года Лідскі РЦЭТіК адбыўся вочны тур конкурсу юных экскурсаводаў музеяў установ адукацыі. Раней, на завочным этапе, удзельнікі прадставілі відэавізітку агляднай экскусіі па музеі сваёй установы.






Цяпер жа 12 удзельнікаў конкурсу - экскурсаводы музеяў СШ № 1, 6, 9, 13, 14, 16, 17 г. Ліды, гімназіі № 1 г. Ліды, Ваверскай СШ, Дварышчанскай СШ,Тарноўскай СШ, РЦТДМ - прадставілі імправізаваную экскурсію "Гісторыя аднаго прадмета".

***ТК "Культура Лідчыны.***





# 60 гадоў з дня нараджэння Міхала Анемпадыстава

16 сакавіка юбілей вядомага беларускага паэта, мастака, публіцыста і перакладчыка Міхала Анемпадыстава. Яму было б 60 гадоў

Міхал Анемпадыстаў нарадзіўся ў Менску 16 сакавіка 1964 года. Дызайнер, фатограф, графік, паэт, публіцыст. Сябар Беларускага саюзу дызайнераў. Навучаўся ў Менскай мастацкай вучэльні, працаваў у жанрах ужытковай графікі, ілюстрацыі, плакату, фатаграфіі. Удзельнічаў у калектыўных і персанальных выставах за мяжой і ў Беларусі.

Ягоныя вершы сталі песнямі N.R.M., "Новага Неба", Зміцера Вайцюшкевіча, IQ48 і іншых, ён быў аўтарам канцэпцыі і многіх тэкстаў славутага "Народнага альбому" (прызнанага "Альбомам года" на "Рок-каранацыі - 1997"), перакладаў польскія рок-хіты для беларускіх спевакоў. "Народны альбом" на доўгія гады стаў адметнай падзеяй для айчыннай музыкі.

Песні з "Народнага альбома" выконвалі такія зоркі беларускай сцэны, як Лявон Вольскі, Кася Камоцкая, Аляксандр Памідораў і іншыя.

Анемпадыстаў заваяваў прэмію "Чалавек года - 2006" па версіі інтэрнэт-парталу "Тузін гітоў". У 2013 годзе выдаў зборнік сваіх вершаў "Глыбока, глыбока, на дне філіжанкі кавы".

Таксама Анемпадыстаў ствараў вокладкі для музычных альбомаў. Вёў на сайце кампаніі "Будзьма беларусамі!", для якой стварыў лагатып, калонку "Простыя рэчы".

Кніга "Колер Беларусі", якую ён напісаў, стала культавай. Гэта ўнікальны агляд фармавання колеравай свядомасці беларусаў творчым вокам мастака. У кнізе як апісанні колераў, іх бытавання ў мастацтве, рэлігіі, бытавым жыцці народа, так і дзясяткі ўнікальных фотаілюстрацый, якія сведчаць пра ўплеценасць разгляданага колеру ў палітру наваколля.






Адзін з пісьменнікаў казаў, што Міхал сканструяваў новую ДНК беларускай культуры, іншы назваў Анемпадыстава "іконаю стылю".

Міхал Анемпадыстаў быў удзельнікам беларускага адраджэнцкага руху пачынаючы з "Беларускай майстроўні" пачатку 1980-х. Генераваў і ўвасабляў вобразныя ідэі для беларускіх грамадскіх і палітычных кампаніяў - "Барані сваё", "Будзьма беларусамі", "Выбірай!". Як мастак і свядомы месціч Анемпадыстаў бараніў ад разбурэння вядомы раён свайго роднага Менска Асмалоўка. Абараніць раён удалося, і ён захаваўся па сёння.

Пасля раптоўнай смерці мастака з'явілася кніга ўспамінаў пра яго "Простыя словы. Міхал Анемпадыстаў". Назву абралі нездарма - песня "Простыя словы" з "Народнага альбома" стала сапраўдным гітом, яе і дагэтуль спяваюць у дарозе, пры вогнішчы, на сяброўскіх бяседах і іншаземцам, знаёмячы іх з беларускай культурай. У кнізе сабраныя цікавыя і менш вядомыя факты пра Анемпадыстава, ягоныя вершы і песні для "Народнага альбома" і гурта "Новае неба", раней не публікаваны сцэнар "Народнага альбома" для польскай тэлевізіі, унікальныя фотаздымкі і "магічная мапа" Анемпадыстава, а таксама ўспаміны пра яго больш як 60 чалавек.

Міхала Анемпадыстава не стала ў студзені 2018 года.

У 2019 годзе ў памяць пра паэта, мастака, фатографа, культуролага, заснавалі прэмію ягонага імя. Ёю вырашылі адзначаць найлепшую вокладку беларускай кнігі.

Пасля смерці Міхала Анемпадыстава беларусы талакой перавыдалі "Колер Беларусі".

***Вікіпедыя.***





# Беларуская праца на навуковай ніве

## *Інтэрв'ю са сп. А. Луцкевічам*

Маючы жаданне атрымаць дакладныя і вычарпальныя звесткі аб навукова-даследчай працы беларусаў, мы звярнуліся да старшыні Беларускага навуковага таварыства (БНТ) і адначасова дырэктара музея гэтага ж таварыства сп. Антона Луцкевіча. У ціхім пакоі з прыгожым скляпеннем, у якім месціцца архіў музея, сп. Луцкевіч даў нам наступнае інтэрв'ю:

- Гэта сёння нармальная справа, калі беларуская інтэлігенцыя, якая мае неабходную кваліфікацыю, скіроўвае свае інтарэсы ў бок навукі. Самастойная навукова-даследчая праца пераважна засяроджваецца менавіта ў БНТ, якое заснавана ў 1918 г. Таварыства, першапачаткова складалася з людзей, не заўсёды здольных да навуковай працы, але павольна, год за годам, яно пераўтварылася ў паважаны навуковы цэнтр. Доўгі час функцыі ўправы БНТ выходзілі далёка за свае адміністратыўныя рамкі - управа брала на сябе рэцэнзаванне рукапісаў беларускіх падручнікаў, якія выдаваліся для сярэдніх і ніжэйшых школ і, адначасова, у сваім поўным складзе, працавала як установа па справах беларускай мовы.

Даўно ўжо кіраўніцтва Беларускага музея, які застаецца часткай Таварыства, перайшло да Рады музея, якая прызначаецца Управай на правах секцыі. Праца Рады музея ёсць, бадай, самай важнай сферай дзейнасці Таварыства, галоўнай мэтай якога пры яго стварэнні было прыняцце прыватных збораў, якія ахвяраваў с. п. Ян Луцкевіч. Акрамя Рады музея, таксама энергічную дзейнасць вядзе гістарычная секцыя Таварыства, якая разам з членамі Таварыства, аб'яднала і шэраг асоб, якія працуюць над гісторыяй краю і не ўваходзяць у БНТ. Да найбольш важных спраў гістарычнай секцыі можна аднесці ўдзел у VI-м Усеагульным з'ездзе польскіх гісторыкаў, які прайшоў у Вільні на пачатку верасня гэтага года. Члены секцыі заявілі на з'езд 6 дакладаў але, на жаль, у праграме засталіся толькі 2.

- *Якой яшчэ дзейнасцю займаецца Таварыства?*

- Існуе літаратурна-мастацкая секцыя, у якой супрацоўнічаюць прадстаўнікі розных галін мастацкай творчасці. У гэтым годзе ўзнікла музычна-драматургічная падсекцыя. Але спыніла працу раней вельмі энергічная секцыя, якая ладзіла даклады, гэта здарылася з-за немагчымасці карыстацца залай былой Беларускай гімназіі. Шырокую дзейнасць таксама вяла і краязнаўча-турыстычная секцыя, якая некалькі гадоў таму арганізавала цікавую выставу фотаздымкаў і малюнкаў у галіне беларускай этнаграфіі. Але калі справа дайшла да арганізацыі экскурсійных паездак, секцыя сутыкнулася ў непераадольнымі перашкодамі. Смерць ініцыятара і кіраўніка секцыі, маладога географа Мікалая Ільяшэвіча, нанесла ёй вельмі моцны удар.

Акрамя працы па секцыях, таварыства рабіла памятныя ўрачыстасці, якія тычыліся важных момантаў культурнай мінуўшчыны Беларусі (400-годдзе Статута ВКЛ, заснаванне ў Вільні др. Скарынам першай беларускай друкарні, 500-годдзе смерці вялікага князя ВКЛ Вітаўта, 50-годдзя з дня нараджэння Івана Луцкевіча і інш.), ладзіла навуковыя лекцыі і дыскусійныя вечары, забяспечвала матэрыяламі, інфармацыяй і парадамі як акадэмічную моладзь, так і айчынных і замежных навукоўцаў. І нарэшце, займалася выдавецкай справай.

- *Што было надрукавана?*

- У першы перыяд свайго існавання, калі Таварыства амаль што ўсю сваю ўвагу засяродзіла на Беларускім музеі, выдавецкая дзейнасць была вельмі абмежаванай і былі выдадзены толькі некалькі брашур. Аднак з 1933 г., дзякуючы субсідыі міністэрства веравызнанняў і асветы, мы выдалі першую кнігу нашага "Гадавіка" і 6 навуковых кніжак. Мы меркавалі, што "Гадавік" будзе пастаянным выданнем і збіралі матэрыялы для выпуску яго ў наступным годзе. На жаль, нашы спадзяванні не апраўдаліся, хоць навуковы свет і прыхільна адгукнуўся на першую кнігу "Гадавіка".

- *Якія адносіны БНТ да навуковых колаў у Польшчы і па-за Польшчай?*

- Нашы навуковыя кантакты пастаянна растуць, пашыраюцца і паглыбляюцца. Шэраг як польскіх, гэтак і замежных навукоўцаў, наведаў наш музей і карыстаўся нашымі калекцыямі для сваёй навуковай працы. У нас былі госці з Францыі, Бельгіі, Германіі, Нарвегіі, Швецыі, Чэхаславакіі, Італіі і інш. З іншага боку, само Таварыства прымала ўдзел у міжнародных кангрэсах (гісторыкаў у 1934 г., філолагаў у 1934 г., географаў у 1934 г.). Наш музей належыць да Асацыяцыі музеяў Польшчы і прымае ўдзел у штогадовых сходах Асацыяцыі. Зараз, як я ўжо казаў, мы прынялі ўдзел у Кангрэсе польскіх гісторыкаў у Вільні.

- *Ці па-за БНТ існуюць іншыя асяродкі беларускай навуковай працы?*

- Так. Такую працу нядаўна пачаў Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры, вядомы да гэтага як асветнае таварыства. Моўныя пытанні, дакладней чысціня беларускай мовы, сталі прадметам спецыяльнай камісіі, створанай па ініцыятыве др. Яна Станкевіча незалежна ад існых таварыстваў. Нарэшце, значную актыўнасць у навуковай працы дэманструе наша студэнцкая моладзь, якая стварыла пры Віленскім універсітэце гуртток сяброў беларусазнаўства. Гэта паказвае, моцную цягу да навуковай працы ў беларускім грамадстве.

- *Якое пакаленне больш актыўнае у навуковай працы?*

- Пакуль што панавала "старая гвардыя" - даваенная інтэлігенцыя. Потым прыйшла грамада маладых, так званых "пражан". Гэта выпускнікі прыватных беларускіх

гімназій, якія не мелі правоў дзяржаўных гімназій і таму не давалі магчымасць працягваць вучобу і атрымліваць вышэйшую адукацыю. Каб атрымаць вышэйшую адукацыю, наша моладзь мусіла эміграваць за мяжу, пераважна ў Чэхаславакію, дзе мела добрую магчымасць карыстацца дзяржаўнай дапамогай. А цяпер, штогод з польскіх універсітэтаў прыязджаюць маладыя адэпты навукі. Яны ахвотна займаюцца самастойнай культурнай і грамадскай працай. На жаль, на гэтым шляху яны сустракаюць непераадольныя перашкоды - статут Звязу беларусаў-выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў не быў зарэгістраваны ўладамі.

*- Як справы з музеем?*

- Мы шмат гадоў працуем над належным уладкаваннем музея - гэтай нашай сапраўднай нацыянальнай каштоўнасці. Выстаўленыя і не выстаўленыя экспанаты, кніжны фонд (новыя і старыя друкі) інвентарызаваны, але, на жаль, некаторыя экспанаты пакуль што немагчыма ўбачыць з-за жахлівай цеснаты памяшканняў. Гэта датычыць і багатай нумізматычнай калекцыі з часоў ВКЛ, каштоўнага збору графікі і інш. Больш-менш цалкам можна ўбачыць наступныя раздзелы: мілітарыя, звычаі, абрадавыя рэчы (прыгожыя віленскія вышыванкі XV-XVI ст.), фальклор і народнае мастацтва (скульптура, музычныя інструменты, тканіны), касцельна-царкоўнае і свецкае мастацтва, кераміка і, нарэшце, дагістарычныя экспанаты. Гэта ўсё разам узятае, дае ўяўленне як пра старабеларускую культуру гэтак і пра народнае мастацтва новага часу.

- Колькі наведвальнікаў мае музей?

- У апошнія гады, хаця наш музей не згадваецца ні ў адным з польскіх даведнікаў па Вільні, наведвальнасць пастаянна расце і апошнім часам дасягае 1300 чалавек у год. У гэтай колькасці і каля 50 экскурсій, якія мы праводзім. Гэта няшмат, асабліва калі ўлічваць, што мы не бяром грошы за ўваход у музей.

*- Які галоўныя патрэбы і праблемы мае музей?*

- Самая вялікая праблема - памяшканне. У нас немажліва цесна. Па гэтай прычыне большасць рэчаў захоўваецца ў скрынях і пакунках. Асабліва кепска з бібліятэкай, у якой пераважна сабраныя творы пра Беларусь і беларусаў ці ВКЛ. Маем друкі, якіх няма ў іншых бібліятэках Польшчы. Агульная колькасць тамоў дасягае 14 000. Яны складзены ў малым пакоі куды мы не маем прамога доступу з музея. Нас аддзяляе малюсенькі пакойчык які належыць філіялу Беларускай дзяржаўнай гімназіі імя Славацкага. У нас няма асобнага памяшкання для чытальнай залы, і нашы чытачы мусяць заставацца ў архіве.

Напрыканцы наш суразмоўца з горыччу заўважыў:

- Польскае грамадства, асабліва ў Вільні, апрыёры падазрона ставіцца да ўсёй беларускай дзейнасці ў галіне навуковых даследаванняў. Запомніўся адзін вельмі характэрны факт. Летась тут, у Вільні, прайшоў штогадовы з'езд дэлегатаў Асацыяцыі музеяў у Польшчы. Удзельнікі з'езда наведалі і наш музей. Я даў тлумачэнні і выслухаў шмат пахвальных слоў, якія маюць асаблівую каштоўнасць, бо гэта меркаванне спецыялістаў. А адзін з самых выбітных польскіх музейшчыкаў, пры развітанні звярнуўся да мяне і сказаў: "Спадар, прызнаюся, што ішоў да вас з нейкім недаверам: ну што ў іх там можа быць? Але я ў захапленні - у вас першакласныя рэчы!".

Я маю ўражанне, што акрамя палітычных момантаў, на незацікаўленасць нашай працай ў значнай ступені ўплывае вось гэты недавер: "Што добрага можа быць у беларусаў?". Калі расказ пра нашы праблемы на старонках "Кур'ера Віленскага" будзе спрыяць знікненню гэтага недаверу, дык гэта будзе значным крокам наперад на шляху нармалізацыі ўмоў нашай працы і павышэння нашай эфектыўнасці.

*Praca bialoruska na niwie naukowej. Wywid z p. A. Luckiewiczem // Kurjer Wilenski. 1935. № 186.*

***Ад перакладчыка.*** *У дадатак, фрагмент артыкула др. Станіслава Лорэнца, які напісана ім па дакладзе, прачытаным др. Лорэнцам на адкрыцці X з'езда музейшчыкаў у Вільні.*

Першым публічным музейным зборам у Вільні стаў "Музей старажытнасці", заснаваны ў 1855 г. пры Віленскай археалагічнай камісіі Яўстахам Тышкевічам. Асновай музея сталі прыватныя зборы Тышкевіча, павялічаныя потым зборамі Адама Кіркора і падарункамі Канстанціна Тышкевіча з раскопак, праведзеных ім у Барысаўскім павеце. Багацейшымі раздзеламі музея былі зборы па дагістарычнай археалогіі, а таксама каштоўныя зборы скульптуры, жывапісу, нумізматыкі, гравюр і рукапісаў.

У 1865 г. дзейнасць Віленскай археалагічнай камісіі была спынена, і найбольш каштоўныя віленскія экспанаты сталі часткай Румянцаўскага музея у Маскве, а ўсе астатняе было далучана да расійскага музея пры Віленскай публічнай бібліятэцы, адчыненай у 1868 г. Падчас сусветнай вайны частка збораў была эвакуявана (нумізматыка і ўсе каштоўныя экспанаты), рэшта страцілася падчас вайны, і толькі малая частка патрапіла у Археалагічны музей Віленскага ўніверсітэта […] кусташам якога з'яўляецца др. Цэгак-Галубовіч. […]

Маем у Вільні 3 нацыянальныя музеі: беларускі, летувіскі музей і яўрэйскі.

Беларускі музей імя Яна Луцкевіча (вул. Вострабрамская, 9). Працуе штодзённа з 9-й па 12-ю гадзіну. Музей паўстаў у 1918 г., калі заснавальнік Беларускага навуковага таварыства Ян Луцкевіч перадаў Таварыству сваю прыватную калекцыю. З 1921 г. музей месціцца ў па-базыльянскіх мурах. Задачай музея ёсць даследаванне матэрыяльнай і духоўнай беларускай культуры з асаблівым акцэнтам на перыяд ВКЛ. Рост калекцый звычайна адбываецца за кошт ахвяраванняў і дэпазітаў.

Музей мае наступныя раздзелы:

1. Невялікі дагістарычны раздзел, частка рэчаў паходзіць з калекцыі Яўстаха Тышкевіча.

2. Нумізматычны раздзел, у якім на першым месцы стаіць нумізматыка ВКЛ.



3. Прадметы рэлігійнага культу: крыжы, абразы, царкоўныя шаты, у тым ліку каштоўныя шаты віленскіх мітрапалітаў, касцельнае начынне і г. д.

4. Этнаграфічны раздзел: строі і дамашнія тканіны, вырабы з дрэва, музычныя інструменты, каштоўныя народныя дрэварыты і г. д.

5. Мілітарыя, мастацкія вырабы, гравюры на медзі і г. д.

Музей мае вялікі фонд рукапісаў і друкаваных выданняў а таксама бібліятэку. Кароткая гісторыя музея і апісанне калекцый былі летась агучаны кусташам музея Антонам Луцкевічам ў першым томе бюлетэня "Baltico-slavica". […]

*Lorentz Stanislaw. Rzut oka na muzea wilenskie / / Kurjer Wilenski. 1934. № 169.; Kurjer Wilenski. 1934. № 170.*

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

# У беларускай гімназіі

## *Уражанні ад непасрэднага назіральніка*

Гістарычны дворык кляштара базыльянаў памятае зняволеную тут моладзь з філарэтаў і хвіліны вулканічнага натхнення Міцкевіча (у "келлі Конрада"), сёння ён мае шмат наведвальнікаў, і менавіта тут зараз знаходзіцца Дзяржаўная беларуская гімназія.

Быццам гэтыя старажытныя, напоўненыя сэнсам муры, уздзейнічаюць на выхаванцаў, якія выйшлі з гэтага абуджанага праз стагоддзі народа, тут пануюць іншая, чым у нашых школах атмасфера, больш засяроджанасці і цішыні, іншыя адносіны, тэмпераменты і інтарэсы - як тут быццам іншы сусвет!

Вучні - славянскія натуры, чыста славянскія, як кажа адзін з настаўнікаў, бо беларусы спакон вякоў жылі сярод балот і лясоў, не змешваліся з чужымі плямёнамі і мала паддаваліся чужым уплывам. Адсюль нейкая пасіўнасць, сум, любоў да паэзіі. Нават маленькія дзеці з малодшых класаў запаўняюць сваімі творамі цэлыя сшыткі - і гэта звычайная з'ява. Тут у настаўніка ўдзячная ніва - дзеці вучацца з ахвотай. Яны прыкладаюць максімум намаганняў і добрай волі, каб выканаць хатнія заданні, якія ў іншых месцах звычайна выконваюцца абы-як. Ёсць такія, якія атрымаўшы на выбар тры тэмы, прапрацоўваюць усе і толькі, на іх думку самую лепшую, запісваюць у сшытак. Іх характарызуе адчуванне прыгажосці прыроды, небанальныя падыходы да праблем, моцны індывідуалізм … і яшчэ адна рэч: вялікая адчувальнасць да чужой беднасці і крыўды.

Новая беларуская інтэлігенцыя рэкрутуецца з дробных сялян, якія прызвычаіліся змагацца з галечай, на што трацілася іх маладосць, часта заўчасна знясільваецца. Яны заўсёды памятаюць нядолю сваіх бацькоў, якія гадаваліся у сваіх убогіх хацінках і таму па сваёй натуры, схільныя да радыкальных ідэй.

Не ведаю, ці ў іншай школе я сутыкнуўся б з такім агульным адчуваннем адзінства ў роздумах, якія выклікала тэма, зададзеная ў мінулым годзе на адным з заняткаў: "Маленькі разносчык газет". Многія з вучняў выказваюць розныя трапныя думкі пра долю гэтых малых валацуг, а адзін гэтак закончыў сваё эсэ: "Малому разносчыку газет: кінь гэтыя газеты і гучна скажы, што ты хочаш жыць і вучацца на роўных з іншымі! Маеш роўныя з імі правы!".

З-за сваіх сімпатый, яны лічацца "камуністамі", але гэта беспадстаўнае меркаванне, асабліва, калі справа ідзе пра апошнія часы - у святле фактаў, ведаючы мясцовыя рухі і настроі, гэты закід губляе сілу.

Бо Вільня - горад, дзе ўсе патроху "камунізуюцца": і студэнты, і прафесура, маладыя каталікі і праўладныя арганізацыі і нават … эндэкі. Мне паказвалі дакумент: адозву ці артыкул, вельмі, вельмі, "перспектыўны" ў гэтым сэнсе.

Аднак генезіс гэтых настрояў у беларусаў іншы.

Не радыкальныя настроі, гэтак уласцівыя моладзі, якімі сёння прасякнутая атмасфера і нават не спагада да пакрыўджаных, гэтак зразумелая сярод дзяцей народа - у аснове гэтых настрояў ляжыць тая невылечная хвароба, сімптомы якой, мы - палякі, можам лёгка распазнаць.

У часы беларусізацыі савецкай Беларусі, саветы для гэтага народа адчынілі вялікія магчымасці як для палітычнага, гэтак і для культурнага развіцця. Адсюль моцнае выпраменьванне радыкалізму і на частку Беларусі, якая знаходзіцца ў межах Польшчы. Тым больш, што мы не маем для нацыянальных меншасцяў ніякай праграмы.

"Калі ласка, зразумейце нас!" - казала мне адна з беларускіх дзяячак і адначасова настаўніца гэтай гімназіі: "І з д'яблам пайшлі б, каб можна было б нешта зрабіць для свайго народа". Аднак з часам прыйшло працвераджэнне. Бо былі арышты ў 1933 г. сяброў "Грамады" і зняволенне ў ГПУ … а потым высылка на Камчатку, падобны ж лёс напаткаў і сяброў іншай беларускай арганізацыі "Змаганне". Цэлы шэраг крокаў савецкіх уладаў, напрыклад, акцыя, накіраваная супраць нацдэмаў, усё гэта яскрава сведчыць пра тое, што нацыянальныя патрабаванні беларусаў Саветы не прымаюць і яны будуць рашуча знішчацца. Гэта трагедыя нацыі, якая занадта слабая, каб стварыць моцны незалежніцкі рух і не мае для гэтага рэсурсаў. Адсюль расчараванне і прыгнечанасць.

Цікавыя гісторыі з часоў, калі Саветы мелі моцны ўплыў на беларускую моладзь, расказаў мне дырэктар гімназіі сп. Астроўскі. Камуністы стварылі свае сеткі

ўплыву ў гэтай установе, і з-за таго, што ім не ўдалося захапіць старэйшыя класы, яны ўзяліся за малодшыя. Вучні зладзілі каля школы мітынг з заклікам да моладзі пакінуць памяшканне. Узамен абяцалі залатыя горы: стыпендыі, бясплатную вучобу ў Менску і г.д. Дайшло да таго, што дырэктар, баючыся вынікаў агітацыі, вырашыў адправіць дамоў тых, якія падтрымлівалі байкот. І гэтыя маладзёны, калі іх спыталі да якой станцыю яны даедуць, аднагалосна адказвалі: "Да Менска".

Як бачым, настроі такой невялікай установы як школа, яскрава адлюстроўваюць настроі ўсяго грамадства. Яно перажывае фазу нацыянальнага рамантызму і незалежніцкіх памкненняў, таму кожны важнейшы момант у жыцці школы: дзяржаўныя ўрачыстасці, імяніны дырэктара, нават пасяджэнне навуковага гуртка, мае для іх асаблівае значэнне і з'яўляецца сур'ёзнай магчымасцю выказаць свой сімвал веры. Нават ранішняя малітва заканчваецца народнай песняй:

Краіну родную,
Беларусь бяздольную,
Маці гаротную,
Божа храні.

І сыноў яе верных,
Працаю замучаных,
На дарогу светлую,
Божа, направў.

Волю, свядомасць,
Брацтва і роўнасць,
Шчасліву долю,
Ім Божа пашлі[1].

У іх выступах, лекцыях і прамовах не толькі няма непрыязні да палякаў, а наадварот, я б сказаў, адчуваецца атмасфера добразычлівасці, і гэта вельмі важна.

У кожнай гарачай адзінцы з беларусаў, на вуснах цэлы шэраг пытанняў, на якія няма адказу.

Ім вядомыя традыцыі агульнай барацьбы з імперыяй. Урачыста адзначылі яны гадавіну студзеньскага паўстання на беларускіх землях. […] Час ад часу ад іх можна пачуць прыказкі, кшталту: "Мы некалі разам змагаліся за свабоду, а як палякі зараз ставяцца да нас?" (VI клас). А вучань IV класа аднойчы даволі наіўна на ўроку спытаў у мяне:

- Чаму пан Пілсудскі нічога не зрабіў для беларусаў?

Адказ на гэта даў дырэктар на святкаванні імянін маршала. Ён сказаў: "Пілсудскі не прасіў свабоды, але ён узяў яе, а вы праспалі 1918 г.". […]

Адносіны беларускай моладзі да маршала і сапраўды незвычайныя. Па ініцыятыве вучняў, літаральна за некалькі дзён на беларускую мову была перакладзеная брашура ці дакладней нататкі др. Арцімовіча "Маршал Юзаф Пілсудскі ў Вільні і на Віленшчыне". Праўда, гэтую працу трэба было яшчэ ўдасканальваць і аддаць ёй яшчэ шмат часу, але сам факт сведчыць, што адносіны моладзі да Польшчы цалкам пазітыўныя і разам з тым не без адчування ўласнай годнасці. Беларусы брашурай хацелі нагадаць маршалу пра патрэбы свайго народа. Таксама ў свой час вучні IV класа сабралі пэўную суму на нацыянальную пазыку (каб ацаніць ўчынак, трэба ведаць што гэта зрабілі вельмі бедныя маладыя людзі) і перадалі ўладам ад адукацыі і просьбай памятаць пра беларускія школы.

Адукацыя - самая вялікая праблема беларусаў і, напэўна, адзіная праграма на бліжэйшую перспектыву, бо адукацыя ў сваім сучасным стане не можа задаволіць патрэбы вёскі.

Беларуская вёска, якая апошнім часам вельмі актывізавалася, адчувае патрэбу ў сваёй школе, але, знеахвочаная няўдалымі спробамі, перастала змагацца за яе. Дастаткова сказаць, што калі ў 1925, 26 і 27 гг. штогод падавалася па 20 000 дэкларацый з патрабаваннем адчыніць беларускія школы, дык ў 1928 г. іх было сабрана ўжо толькі некалькі дзясяткаў. Трэба ведаць мясцовыя ўмовы, каб зразумець прычыны гэтай відочнай абыякавасці беларусаў да сваіх спраў.

Здавалася б, беларусы, дзякуючы свайму культурнаму падабенству з палякамі маюць больш магчымасцяў, чым іншыя нацыі для паразумення і рэалізацыі сваіх патрабаванняў, але калі гэта не так, калі нават самыя шляхетныя асобы з польскага лагера, выхаваныя на лозунгу "За вашу і нашу свабоду", не вераць у беларускі рух, дык трэба прызнаць, што віну за гэта ў значанай ступені нясуць і самі беларусы[2]. Не сумелі зацікавіць сваёй справай, не маюць таго размаху і той пэўнасці і пачуцця сілы ў сабе, якая ёсць у украінцаў.

У выніку беларуская інтэлігенцыя і моладзь, пакідаюць партыйныя шэрагі і замыкаюцца ў сабе, не жадаюць мець справы з нейкай палітыкай.

Аднак, з моладзі выйдуць будучыя дзеячы, з якімі польскае грамадства, без сумневу, будзе лічыцца.

*G. K. W gimnazjum bialoruskiem (Wrazenia bezposredniego obserwatora) // Kurjer Wilenski. 1934. № 340.*

***Пераклад і каментаванне Леаніда Лаўрэша.***

[1] Беларускі рэлігійны гімн, упершыню быў надрукаваны ў часопісе "Беларуская зарніца", № 2, 15 верасня 1928 г. у наступным варыянце:

**Беларускі рэлігійны гімн.**

Краіну родную, Беларусь бяздольную,
Маці гаротную, Божа храні,
І сыноў яе бедных, працаю замучаных
На дарогу сьветлую, Божа направў
Волю, сьвядомасьць, брацтва і роўнасьць
Шчасьлівую долю ім, Божа, пашлі.

Перадрукоўваўся ў часопісе "Сьветач Беларусі", № 1, 18 красавіка 1930 г., у абодвух выпадках без указання аўтара. - *Л. Л.*

[2] Падобна на патрабаванне да кузуркі бегчы, пасля таго, як у яе адарвалі ногі. - *Л. Л.*



№ 12 (116) 20 САКАВІКА 2024 г.
наша СЛОВА.pdf

# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Заўсёды на лініі - не агню, а слова: Васілевіч, Сінайкін, Шадура; спроба англамоўнага бюлетэня*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-11 (105-115) за 2024 г.)*

**"НЬЮСЛАЙН"**
**Выбраныя паведамленні з "Newsline / Belarusian - American Indian Society" ("Лінія навін / Беларуска-індзейскае таварыства" (1998), пераклад з англійскай мовы)**

NEWSLINE BAIS 1998#03 ЧЛЕН БІТ ПІША ДЛЯ КНІГІ "ПАМЯЦЬ. ГОМЕЛЬ" Кніга выйдзе з друку да кастрычніка. Чакаецца артыкул пра Давіда Выгодскага.

NEWSLINE BAIS 1998#06 ЦЫГАНЫ РАЗЗЛАВАЛІСЯ З-ЗА "ІНДЗЕЙСКІХ" ПАРАЎНАННЯЎ Адзін член БІТ у Гомелі распачаў "правакацыйны" эксперымент. Цыганкі "прыстаюць" да прахожых. Той член кажа: "Амерыканцы заганяюць сваіх індзейцаў у рэзервацыі". Адна з раз'юшаных жанчын вельмі нецэнзурна вылаялася. Крыху абражаны член у адказ паказаў на абласную бібліятэку і сказаў: "Ідзіце і пачытайце пра індзейцаў". І ганарыцеся.

NEWSLINE BAIS 1998#07 "КАКТУСЫ" 4 чэрвеня ў Мінску адбылася прэзентацыя "візуальнай паэзіі" і анаматапеі Зміцера Вішнёва ("Краіна кактусаў"; гл. рэпартаж у "Мінск ньюс", 1998, 9-15 чэрвеня). Газета або яе старонкі рассылаюцца зацікаўленым асобам у абмежаванай колькасці. Каб "падпісацца", звяжыцеся з намі.

NEWSLINE BAIS 1998#08 ЛЮЛЬКА МІРУ ПАНІЗНІКА У Гродне сабраліся прадстаўнікі нацыянальнасцей, чые кроўныя браты на радзіме / памежжы яшчэ "не могуць раскурыць "люльку міру"" (па словах паэта Сяргея Панізніка). Фестываль нацыянальных меншасцей прайшоў там 22-24 мая 1998 г. ("Голас Радзімы", 11.6.98).

NEWSLINE BAIS 1998#09 КНІГІ ВЫРАТАВАНЫЯ Маскоўскі член БІТ "выратаваў" кнігі з Бібліятэкі Інстытута Лацінскай Амерыкі для "Лацінаамерыканскага цэнтра" ў Гомелі. Акадэмічныя і публічныя бібліятэкі Расіі і Беларусі па-ранейшаму распрадаюць "неактуальныя" і дублетныя кнігі.

NEWSLINE BAIS 1998#11 "РАЗРЫВАЮЧЫ ЦІШЫНЮ", рэжысёра Менахема Голана, здымаецца / страляе ў Мінску і паказвае супрацьстаянне Тупак Амару і Японіі ў Ліме.

NEWSLINE BAIS 1998#14 РЭЗЕРВАЦЫЯ ЛІКВІДАВАНАЯ Сяргей Шапран, індзеяністкі аўтар папулярнага штотыднёвіка "Имя", у артыкуле пра разгром "апошніх абарыгенаў" паведаміў пра закрыццё вядомага контркультурнага музычнага клуба "Рэзервацыя".

**Selected communications from NEWSLINE / BELARUSIAN - AMERICAN INDIAN SOCIETY (1998)**

NEWSLINE BAIS 1998#03 BAIS MEMBER WRITES FOR "MEMORY. GOMEL" BOOK The book will be out of print by October. An article on David Vygodsky is expected.

NEWSLINE BAIS 1998#06 GYPSIES MAD AT "INDIAN" COMPARISONS A BAIS member in Gomel has commenced a "provocation" experiment. Gypsy women "harass" passers-by. The member says: "Americans drive their Indians into reservations". One of the infuriated women has used very bad language. The slightly insulted member replied by pointing at the regional library and saying: "Go and read about Indians". And take pride.

NEWSLINE BAIS 1998#07 "CACTUSES" Zmitser Vishneu's "visual poetry" and onomatopoeia were presented in Minsk on June 4 ("The Country of Cactuses"; see report in Minsk News 1998 June 9-15). The newspaper or its pages are sent to interested persons in a limited quantity. To "subscribe" contact us.

NEWSLINE BAIS 1998#08 PANIZNIK'S CALUMET Representatives of nationalities whose blood brothers in mother/borderlands still "cannot smoke "calumet" (according to poet Syargei Paniznik) have gathered together in Grodna. A national minorities festival took place there on May 22-24, 1998 (Golas Radzimy 11.6.98).

NEWSLINE BAIS 1998#09 BOOKS RESCUED A Moscow member of BAIS has "rescued" books from the Library of the Institute of Latin America for the "Latin American center" in Gomel. Academic and public libraries in Russia and Belarus still sell out their "out of date" and duplicate books.

NEWSLINE BAIS 1998#11 "BREAKING THE SILENCE", directed by Menahem Golan, is shot/shooting in Minsk and featuring the Tupac Amaru - Japanese confrontation in Lima.

NEWSLINE BAIS 1998#14 RESERVATION TERMINATED Sergei Shapran, an Indianist author of the popular Imya (Name) weekly staff, reported on the closure of the famous counter-culture music club "Reservation" in his article about "the last aborigines" crushed.

NEWSLINE BAIS 1998#20 IANMR NEWS The International Academy of National Minorities' Research, a non-governmental and non-profit institution, Brest, Belarus, has issued N 1 of its quarterly bulletin "National Minorities in Belarus and the World". Prof. Sergei A. Yatskevich, Editor, P.O. Box 14, Brest 224030, Belarus.

NEWSLINE BAIS 1998#21 POPOV'S MAYAS The Gomel artist Ivan Popov currently owns a series of "Maya" paintings (Maya 1994 canvas/oil 40-30; Astronomer from Copan 1995 c/o 100-121; Maya-2 1997 c/o 32-36). He also has produced a "mayka" ("Maya T-shirt"). Ivan Popov was born in 1966 in Rechitsa; graduated from the Minsk Glebov Art School in 1985, worked as a decorator, participated in regional and republican exhibitions since 1990; member of the Union of Artists of the Republic of Belarus; the organizer of the avant-garde art exhibition "Nirvana" (art modern style) in 1994. He started his "Indian" works when created several "present" decorative miniatures ("Ghost Dance", etc.). He is also interested in Indian music.

***Selected communications from NEWSLINE (mid-1998). Original English version, p. 1***

NEWSLINE BAIS 1998#20 НАВІНЫ МАВНМ Грамадская і некамерцыйная арганізацыя Міжнародная акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей (Брэст, Беларусь) выпусціла № 1 штоквартальнага бюлетэня "Весці АНМ. Нацыянальныя меншасці ў Беларусі і свеце". Праф. Сяргей А. Яцкевіч, рэдактар, 224030, г. Брэст, Беларусь, а/с 14.

NEWSLINE BAIS 1998#21 МАЙЯ ПАПОВА Гомельскі мастак Іван Папоў цяпер мае серыю карцін "Майя" (Майя, 1994, палатно/алей 40-30; Астраном з Капана, 1995, п/а 100-121; Майя-2, 1997 п/а 32-36). Ён таксама выпусціў "майку" ("Майка майя"). Іван Папоў нарадзіўся ў 1966 г. у Рэчыцы; у 1985 г. скончыў Менскае мастацкае вучылішча імя Глебава, працаваў мастаком-афарміцелем, з 1990 г. удзельнічаў у абласных і рэспубліканскіх выставах; член Саюза мастакоў Рэспублікі Беларусь; арганізатар выставы авангарднага мастацтва "Нірвана" (стыль арт-мадэрн) у 1994 г. "Індзейскую" творчасць пачаў са

